# ДЗЕЯЧАС

*літаратурны агляд №1/2000 (1)*
*Лявона Вашка*

***Вы трымаеце ў рукох першы выпуск літаратурнага агляду творчасці Лявона Вашка. Мэта выдання – папулярызацыя і прапаганда ідэяў і поглядаў беларускага пісьменніка. На старонках "Дзеячасу" змяшчаюцца літаратурныя навіны, якія датычаць творчасці Лявона Вашка, друкуюцца звесткі пра ягоныя творы.***

## КНІЖКІ ЛЯВОНА ВАШКА

***Еўрапейскія гісторыі. Апавяданні. Менск, 1995.***



У кніжку ўвайшлі дваццаць чатыры апавяданні, кампазіцыйна злучаныя між сябе. Наклад кніжкі – 4000 асобнікаў. Выйшла як планавае выданне дзяржаўнага выдавецтва "Мастацкая літаратура".

***Паэты-цары. Апавяданні. Менск, 1997.***

У выданні змешчаныя трыццаць пяць апавяданняў, якія ўзаемадапаўняюць адно аднаго і, утвараючы цалкавітую кніжку, кампазіцыйна працягваюць "Еўрапейскія гісторыі". Наклад выдання – 1000 асобнікаў. Кніжка выдадзеная за грошы спонсараў: абласнога ўпраўлення анаргетыкі і алектрафікацыі "Гроднаанэрга" і сумеснага беларуска-гярманскага прадпрыемства "Самана-плюс".




***Гістарызацыя свядомасці: Навуковая публіцыстыка. Масты – Гародня – Менск, 1997.***




Кніжку складаюць нарыс "Гістарызацыя свядомасці" і сем філасоўскіх ды літаратурна-крытычных артыкулаў. Кніжка выйшла накладам у 500 асобнікаў. Самавыдавецтва. Фундавалася за ўласныя грошы.

***Маленькі сшытак Лявона Вашка. Публіцыстыка. Масты-Полацак-Менск, 2000.***

У першым выпуску "Маленькага сшытку" надрукаваныя палямічныя і філасоўскія лісты Лявона Вашка да знакамітых людзей на Беларусі і ў свеце, дзённікавыя нататкі сноў пісьменніка. Кніжка выйшла накладам 299 асобнікаў. Самавыдавецтва. Надрукаваная пры падтрымцы фермерскае гаспадаркі "Гарызонт", грамадскага аб'яднання "Ратуша" із уласных высілкаў.



# Лявон Вашко напісаў і выдаў кніжкі прозы, публіцыстыкі і літаратурнае крытыкі.



***Пра што кніжкі Лявона Вашка?***

**Кніжкі прозы Лявона Вашка "Еўрапейскія гісторыі" і "Паэты-цары (Трыццаць пяць беларускіх малюнкаў)" складаюца з філасоўскіх навэлаў, якія прысвечаныя жыццю невялікага беларускага гарадка над Нёмнам. Персанажы твораў, звычайныя месцічы, жывуць у сваім унутраным, душэўным свеце, які часцяком спасабляе іх на дзіўныя, абсурдныя дзеянні ў акалючай іх рэчаіснасці. З апавяданне ў апавяданне аўтар стварае ўласны летапіс гарадка – непрадказальную гісторыю душэўных, бязрозумных памкненняў сваех гяроў. Жыццё персанажаў – гэта некалькі яскравых лёсатворных выбухаў душы, якія адкрываюць філасоўскую глыбіню існавання гэтых людзей: на некалькіх старонках тэксту пісьменнік раскрывае дзівосны непаўторны свет чалавечае душы і паказвае шырокую панараму жыцця таго ці іншага персанажу.**

◆Для апавяданняў Лявона Вашка ўласцівае адмысловае сюжэтна-кампазіцыйнае рашэнне. Сюжэты ягоных твораў захапляльныя і, як правіла, маюць непрадбачнае завяршэнне.

◆Псіхалагічныя матывацыі ў апавяданнях замененыя на псіхічную непрадказальнасць персанажаў, тыпалагічнае на нетыповае, а традыцыйны "тыповы гярой у тыповых абставінах" на арыгінальную, яскрававыяўленую індывідуальнасць чалавека.

◆Уласцівыя апавяданням Лявона Вашка філасоўская глыбіня, жывы гумар, парадаксальныя назіранні, цікавыя аксперыменты ў словатворчасці, самабытная мова кажуць на ягоную прозу як на зьяву не падобную да іншых, адмысловую ў беларускай літаратуры.



**Кніжка "Гістарызацыя свядомасці" – літаратурна-крытычная. У яе ўвайшлі нарыс "Гістарызацыя свядомасці" і шэраг артыкулаў. "Гістарызацыя свядомасці" – навуковае даследванне беларускае літаратуры на пачатку XX стагоддзя, якое грунтуецца на разглядзе рэчаіснасці як зьявы псіхічнай. У кніжцы аналізуецца маладая нацыянальная літаратура і раскрываецца ейная першаступенная роля ў нараджэнні беларускае гісторыі.**

◆Вялікае месца ў "Гістарызацыі свядомасці" вылучанае пытанням фенаменалогіі і непасрэдна самому разгляду беларускіх псіхічных фяноменаў.

◆У кніжцы "Гістарызацыя свядомасці" Лявон Вашко аналізуе літаратурна-грамадскае быццё з пункту гледжання не сацыяльна-аканамічнага, як гэтае традыцыйна робіцца ў беларускай навуцы, а даследуе яго як псіхічную праяву.

◆Пісьменнік вылучае цікавую навуковую канцэпцыю, праз якую беларуская літаратура разглядаецца не як прадмет, а як духовая дзея.

◆У кнізе "Гістарызацыя свядомасці" аўтар раскрывае абсалютную ролю айчыннага прыгожага пісьменства ў вытварэнні беларускае нацыянальнае гісторыі і выказвае ідэю пабудовы Беларускага Храму Духу – трансцадантальнага, бязмежнага, глыбіннага мастацкага вобразу Беларусі, на падставе якога творыцца рэчаісны свет.

***23 лютага 2000 году быў зроблены ў Гародні ў друкарні грамадскага аб'яднання "Ратуша" першы асобнік альманаху "Маленькі сшытак Лявона Вашка".***

**Гэта мастацка-публіцыстычнае выданне. У першым выпуску альманаху зьмяшчаюцца філасоўскія і палямічныя лісты Лявона Вашка да пісьменнікаў, дзеячоў культуры, палітыкаў, прадпрыймальнікаў сучаснасці: Алеся Аркуша, Алеся Белакоза, Таццяны Зарыцкай, Біла Клінтана, Мікалая Мацкевіча, Адама Палюховіча, Сержука Сокалава-Воюша, Івана Чэркаса, Лявона Юрэвіча.**

**У лістох да знакамітых людзей на Беларусі і ў свеце пісьменнік разважае і спрэчыць паводле падзеяў у сучасных літаратуры і грамадскім жыцці. Свабода і духатварэнне новай Беларусі – скразная ідэя выпуску. Допісы, змешчаныя ў кніжцы – гэта яскравая публіцыстыка з жывым нестандартным мысленнем і трапнымі заўвагамі. Апісталярныя творы Лявона Вашка вызначаюцца глыбокавобразнасцю, філасафічнасцю, гумарам, моватворчасцю, пошукамі ў галіне стылю.**

**У раздзеле "Карабель сноў" друкуецца дзённік пісьменніка, дзе змешчаныя сны Лявона Вашка, якія ён запісваў цягам некалькіх гадоў.**

**У публікацыі сноў прысутнічаюць раальныя асобы – як сусветнавядомыя літаратары, грамадскія дзеячы, палітыкі, гэтак і слынныя асобы на Беларусі – усе яны паўстаюць на старонках кнігі ў незвычайных, а часам нават і ў скандальных вобразах. "Карабель сноў" – гэта летапіс псіхічных вольнавобразаў пісьменніка, твор, дзе філасофія душы адкрывае падсвядомасную патаемніцу духовае творчасці.**

***"Чалавек мяняецца ў свеце і праз сябе мяняе свет; новая прыступка ў аваліюцыі чалавека – духатворчасць, калі ўнутра-ных духовых сілаў дастаткова для вытварэння ўласнае духарэчаіснасці; сусвет робіцца сваім для тых, хто творча выдыхае яго з сябе, і акурат у гэтым унутранасакральным сузор'і новых духатворцаў беларус вольны сярод вольных і роўны сярод роўных."***



***звестка ад Біла Клінтана***

**прыйшла ў горад Масты ў творчую майстэрню Лявона Вашка. Прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі дзякуе за зычлівы падарунак беларускага пісьменніка – кніжкі Лявона Вашка з аўтографам аўтара – і абяцае ўважліва разгледзець пытанне пра судзеенне беларускай духатворчасці. Досыл з далёкага кантыненту – адказ на прапанову Лявона Вашка дапамагчы беларускай культуры аб пары цяжкіх выпрабаванняў.**

***вялесаванне***

Літаратурная прэмія Таварыства Вольных Літаратараў "Гліняны Вялес-1997" была ўручаная Лявону Вашку за кніжку апавяданняў "Паэты-цары (Трыццаць пяць беларускіх малюнкаў)" ў сакавіку 1998 году ў Полацку пры Барысавым камні каардынатарам ТВЛ Алесем Аркушом. "Гліняны Вялес" прысуджаецца штогод у галіне літаратуры за лепшую мастацкую кніжку. Лявон Вашко – першы з празаікаў, каго ўчцілі гэтай ганаровай узнагародаю.

***падтрымка БНФ і ТБМ***

Грашовая прэмія за лепшую літаратурную публікацыю, якую прысудзіў Дзяржкамдрук Лявону Вашку, была скіраваная аўтарам на падтрымку Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Таварыства Беларускае Мовы імя Францішка Скарыны. Людзі, якія ў шэрагах БНФ і ТБМ змагаюцца сёння супраць спустошэння беларускае духоўнасці, ад'значыў Лявон Вашко ў часе ўручэння яму прэміі, – святыя, яны бо не адступіліся ад беларушчыны ў цяжкія для бацькаўшчыны хвіліны, таму хацелася б хоць такім чынам, грашыма, падзякаваць беларускім патрыётам за іхнюю стойкасць і мужнасць.

***тайналічбы***

У траўні 1999 году нарэшце завершанае апавяданне "7-45", праца над якім працягвалася некалькі гадоў. "7-45" – гэта сакральныя лічбы, выяўленыя праз мастацкае маўленне; гэта Кабала Лявона Вашка, праз якую ён выварожвае свет свайго маленства.



**Лявон Вашко. Беларускі празаік, драматург, літаратуразнаўца. Нарадзіўся 12 красавіка 1963 году ў Гародне. У 1985 годзе скончыў факультэт журналістыкі Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэту. Працаваў журналістам у газетах і часопісах. У 1997 годзе скончыў аспірантуру на філфаку БДУ. Напісаў і выдаў кніжкі апавяданняў "Еўрапейскія гісторыі" (1995), "Паэты-цары (Трыццаць пяць беларускіх малюнкаў)" (1997), кніжку навуковае публіцыстыкі "Гістарызацыя свядомасці. Беларуская літаратура і беларушчына на пачатку XX стагоддзя" (1997). Выпускае ўласны альманах "Маленькі сшытак Лявона Вашка" (першы выпуск выйшаў у 2000 годзе). Аўтар п'есаў "Сэкс па перапісцы", "Эпас, лірыка і драма як жыццё цёплага чалавека", "Ампутацыя міндалінаў".**

---

***Наступны нумар "Дзеячасу" будзе прысвечаны драматургіі Лявона Вашка.***

**Савецкая, 138 Масты Беларусь 231600**
**☎ (8-01515) 2-23-75 E-mail: liavon@yahoo.com**

Літаратурны агляд "Дзеячас" надрукаваны на абсталяванні грамадскага аб'яднання "Ратуша". Наклад 299 асобнікаў.